Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Выдаецца са снежня 1994 года | 33 (541) 19 жніўня 2010 года | Кошт **свабодны**

**100 год Задарожскаму касцёлу.**



Працяг тэмы на стар. №5

# Ñïÿêîòà ¢çëàâàëà ãàäçþê ³ ìàøêàðó




**За чэрвень-ліпень у аддзяленне таксікалогіі Віцебскай абласной бальніцы шпіталявана больш 50 чалавек з укусамі змей і розных крывасмактальных.**

■ Таццяна Пастарнак.

Але тых, якія звярнуліся за медыцынскай дапамогай значна больш. Шматлікім яна аказана прама ў прыёмным пакоі. Як распавёў выканаўца абавязкаў загадчыка аддзялення Яўгеній Аленін, звычайна, у дзень звярталіся па 7-8 чалавек.

З укусамі змей паступілі 14 чалавек. Па словах пацярпелых, гады (хутчэй за ўсё гадзюкі і мядзянкі) нападалі не толькі ў лесе, але і на агародах, дачах. Пажылую жанчыну, якая лечыцца ўжо тры тыдні, змяя ўкусіла за нагу, калі тая касіла траву на сваім участку.

Спякота адбілася на актыўнасці ўсякага роду крывасмактальных: пчол, вос, шэршняў, аваднёў. Людзі звярталіся з укусамі рэдка сустракаемых мошак, якія выклікаюць хваравітыя рэакцыі, ацёкі.

Лекары раяць звяртацца ў медыцынскую ўстанову, калі на целе ад укусу з'явілася рэакцыя, бо, калі своечасова не правесці лячэнне, могуць быць усякага роду ўскладненні.

Ëåïåëüñê³ ðà¸í

# Äà çàïàâåòíàé òûñÿ÷û òîí

■ Станіслаў Раманчук

**Як ніколі сёлета ўборка вырашчанага збожжа аказалася нялёгкай з прычыны анамальна працяглай гарачыні.**

Але і ў гэтых няпростых умовах людзі стараюцца ў полі і на зернесушылках, а ў Лепельскім раёне ўпершыню ў гісторыі іх лепшы камбайнер першым на Віцебшчыне адкрыў лік экіпажаў-тысячнікаў. Раней такога не было, каб яшчэ напрыканцы ліпеня браты Аляксандр і Валерый Жэрнасекі адолелі такі важкі рубеж на ячменным полі сельгасфіліяла "Заазер'е" Лепельскага МКК. Ужо праз пару дзён у вобласці было 8 такіх экіпажаў, але ж самым першым - асаблівая пашана. Герояў жніва асабіста падзякаваў за старанную працу кіраўнік вобласці А. М. Косінец і ўручыў прама ў полі падарункі – мабільныя тэлефоны і сталовыя наборы з лёну. Мясцовае кіраўніцтва і дырэкцыя малочнага камбіната таксама аддзячылі абодвух братоў важкімі грашовымі прэміямі і каштоўнымі падарункамі. У гэтым годзе і ў іншых раёнах Віцебскай вобласці вытрымліваюцца высокія тэмпы ўборкі, хоць агульны каравай збожжа чакаецца з-за спёкі меншы леташняга. Праўда, ёсць і свой плюс: у адрозненне ад папярэдніх гадоў, сабранае зерне амаль не прыходзіцца доўга сушыць.

Äîêøûöê³ ðà¸í

# Óçðîâåíü ñåðâ³ñó – ñó÷àñíû

■ Чэслаў Якубовіч

**Заўсёды ажыўленым бывае рух аўтатранспарту на аўтамагістралі Мінск-Віцебск, а сёлета на ёй актыўна прадоўжыла стварацца неабходная інфраструктура для вадзіцеляў і пасажыраў.**

Толькі ў Докшыцкім раёне ля граніцы з суседнім Лагойскім раёнам Міншчыны завяршылася абуладкаванне сучаснай зоны адпачынку, на якую ўжо патрачана больш 2 млрд. рублёў. На прыведзенай у парадак прыдарожнай тэрыторыі акрамя новай АЗС неўзабаве з'явіцца больш дзесяці неабходных аб'ектаў прыдарожнага сервісу. Тут запланавана гасцініца для вадзіцеляў-дальнабойшчыкаў на 16 месц і розныя прыдарожныя магазіны з кафе. Далей па трасе ў бок абласнога цэнтра ў гарпасёлку Бягомль ужо з'явіліся таксама прыдарожны драўляны матэль з лазняй. Таксама ў гэтым абноўленым населеным пункце з'явілася і станцыя тэхнічнага абслугоўвання аўтамабіляў. Кіраўніцтва вобласці мясцовы вопыт прыдарожнага сервіса запатрабавала ўкараніць і ў іншых рэгіёнах. Новым з'яўляецца і рашэнне арганізаваць пракат аўтамабіляў для гараджан, жадаючых на аўтадарожніках палюбавацца маляўнічымі мясцінамі Бярэзінскага краю. Новы аб'ект ля дарогі прынясе 20-25 дадатковых працоўных месцаў, што для глыбінкі добры вынік.

# ×ûííî¢í³ê³ ïà÷íóöü àäêàçâàöü ïà-áåëàðóñêó

**Пакуль толькі на пісьмовыя звароты.**

У парламенце ідзе праца над законапраектам, прысвечаным зваротам грамадзян і юрыдычных асобаў. Адно з пытанняў, якое ў ім разглядаецца, – мова адказаў на такія звароты.

– У нас у краіне дзве дзяржаўныя мовы, – цытуе словы дэпутат парламента Яўгена Мельніка "Звязда", – і мы ўсё ж прыйшлі да такога меркавання, і будзем яго прытрымлівацца, – даваць адказ на мове звароту. Калі ён на беларускай мове, значыць, адпаведна адказваць па-беларуску, калі на расейскай – значыць, па-расейску».

# Êîøò íà ãàç äëÿ ²Ï ³ þðàñîá ïàâÿë³÷àíû ¢ Áåëàðóñ³ íà 13,2%

■ Міхась Сінкевіч - БЕЛТА

У Беларусі кошт на газ для індывідуальных прадпрымальнікаў і юрасоб з 11 жніўня бягучага года павялічылася з Br632 505 да Br716 000 за 1 тыс.куб.м без ПДВ, ці на 13,2%. Адпаведнае рашэнне ўтрымоўваецца ў пастанове Мінэканомікі ад 5 жніўня 2010 года №122 "Пра ўнясенне змен і дапаўненняў у пастанову Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь ад 18 лютага 2010 г. №39", паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-службе міністэрства.

Павелічэнне кошту звязана з падаражэннем кошту куплі расійскага прыроднага газу, а таксама зменай агульных эканамічных умоў гаспадарання для юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў рэспублікі.

Акрамя таго, у мэтах стварэння больш спрыяльных умоў функцыянавання дзіцячых дамоў сямейнага тыпу, дзіцячых вёсак (мястэчкаў), кошт на газ для гэтай групы спажыўцоў усталяваны на ўзроўні коштаў для насельніцтва.

Улічваючы, што спажыты ў жніўні прыродны газ спажыўцы аплацяць у верасні, новыя кошты усталёўваюцца з 11 жніўня 2010 года, адзначылі ў Мінэканомікі.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Ìàõëÿðó ñïàäí³öû

■ Кастусь Александровіч

**Хоць на двары іншы час высокіх тэхналогій XXI стагоддзя, але не пераводзяцца і цяпер розныя прайдзісветы, жадаючыя лёгкім чынам абагаціцца, карыстаючыся методыкай легендарнага Астапа Бэндэра.**

Вось і ў Пастаўскім раёне на такую коўзкую сцяжынку смела ступіла маладая непрацуючая жанчына, маці непаўналетніх дзяцей. Яна нават пашпарту не мела, але стала набываць розныя тавары ў крамах быццам у крэдыт, як гэта робіць большасць сумленных людзей. Але гэта махлярка змагла спачатку падмануць прадаўцоў прыватных крам, набраўшы і па чужых дакументах бытавой тэхнікі і посуду амаль на 4 млн. рублёў. Потым сваё здольнасці пераконваць даверлівых работнікаў прылаўку, плесці ім розныя байкі яна перанесла і на дзяржаўны гандаль. Розным чынам за кароткі час, падрабляючы чужыя подпісы, "лжэ-пакупніца" набрала рознай складанай бытавой тэхнікі і мэблі на суму амаль 14 млн. рублёў. Ей можна было абстаўляць не адну кватэру, але "камбінатарша" большую частку рэчаў прадала, а грошы і не думала вяртаць у магазіны. Але потым сітуацыя поўнасцю праяснілася і прыйшлося махлярцы вярнуць крамам прычыненыя страты. З улікам такіх абставін і прызнання віны суд Пастаўскага раёна асудзіў жанчыну на 3 гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прыгавору на 2 гады. Асуджаную абавязалі таксама пайсці працаваць і прыстойна сябе паводзіць, каб не трапіць за краты.

# Çàïðàøàåì íà ñõîä

**27 жніўня ў 10 гадзін у зале пасяджэнняў Дома Саветаў на 1-м паверсе адбудзецца справаздачна-выбарчы сход Глыбоцкай раённай арганізацыі грамадскага аб'яднання Беларускага таварыства інвалідаў па зроку. Запрашаем ўсіх інвалідаў па зроку прыняць удзел у сходзе.**

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| Мясцовы час | чацвер 19.08.10 | | | | пятн.20.08.10 | | | | сб. 21.08.10 | | | | нядз.22.08.10 | | | | 23.08.10 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +16 | +17 | +20 | +19 | +14 | +14 | +15 | +14 | +10 | +14 | +18 | +15 | +9 | +14 | +21 | +18 | +14 | +18 | +22 |
| Ціск, мм | 737 | 736 | 736 | 737 | 736 | 737 | 742 | 745 | 745 | 747 | 748 | 749 | 749 | 749 | 749 | 747 | 745 | 744 | 743 |
| Вільготнасць, % | 82 | 83 | 70 | 67 | 89 | 88 | 75 | 72 | 92 | 72 | 38 | 56 | 87 | 60 | 37 | 54 | 77 | 78 | 55 |
| Вецер м/сек | Ю-З 6 | З 6 | З 6 | З 7 | З 8 | З 7 | С-З 6 | С-З 4 | З 2 | С 3 | С 3 | С-З 3 | С-З 3 | З 1 | З 2 | Ю-З 4 | Ю-З 5 | Ю-З 4 | Ю-З 4 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**У многім з-за ўведзеных расійскіх пошлін на нафту Беларусь у 1-м паўгоддзі сёлета скараціла свой імпарт больш чым на 500 млн. USD. Напярэдадні новых прэзідэнцкіх выбараў у краіне запланавалі з 1-га лістапада чарговае павышэнне тарыфнай стаўкі першага разраду ў бюджэтнай сферы. Супраць такіх неабгрунтаваных ростам прадукцыйнасці працы крокаў яшчэ раней выказвалася місія МВФ. З канца кастрычніка вырашана дзяржжыллё адчуджаць працаўнікам у РБ па ацэнкавай вартасці.**

# Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Расія.** Прэм'ер-міністр У. Пуцін узяў пад асабісты кантроль ход аказання дапамогі тысячам сем'ям пагарэльцаў ад моцных лясных пажараў з зон бяды ў 17 рэгіёнах краіны.

**Бельгія.** Кіраўніцтва ЕС абавязала вядучых вытворцаў мабільнікаў перайсці з 1 студзеня 2011 года на ўніфікаваныя зарадныя прыстасаванні для ўсіх сотавых тэлефонаў Еўропы.

**Англія.** Урад краіны вырашыў адмяніць для брытанцаў абавязковы выхад на пенсію, за выключэннем паліцыі і авіяцыі, англічане цяпер выходзяць на пенсію ў 65 гадоў.

**Францыя.** Прэзідэнт М. Сarказі распарадзіўся на працягу 3-х месяцаў ліквідаваць у краіне 300 незаконных цыганскіх стаянак і лагераў – расаднікаў злачыннасці, наркотыкаў.

**Пакістан.** Краіну ўзрушылі катастрофа каля сталіцы аэробуса і гібель там 152 чалавек, а таксама магутнейшая паводка пасля ліўняў, якая забрала жыцці больш 1500 чалавек.

**Галандыя.** Краіна першай з дзяржаў кааліцыі вырашыла поўнасцю вывесці свой воінскі кантынгент з Афганістана, за час баёў там загінулі 24 галандскія салдаты, 140 – ранены.

**Венгрыя.** МВФ і ЕС прыпынілі для краіны дзеянне крэдытнай лініі ў памеры 20 млрд. EUR за парушэнні ўрадам умоў іх выдачы, курс нацвалюты форынта абваліўся на 2,8 %.

**Італія.** Жыхароў Рыма абурыла рашэнне Ватыкана не пускаць на сваю тэрыторыю, нават у крамы і аптэкі, гараджан, адзетых у спёку ў шорты і ў адзенне з адкрытымі плячамі.

**Польшча.** У краіне са жніўня забаранілі любыя цялесныя пакаранні дзяцей, прычыненне ім дарослымі душэўных пакут і іншых форм знявагі малых польскіх грамадзян.

**Украіна.** За апошнія 5 гадоў у краіну, як пацвердзіў яе пасол у РБ Раман Бязсмертны, прыйшло 36 млрд. USD прамых замежных інвестыцый пад канкрэтныя праекты.

**Таджыкістан.** Па новаму закону ў краіне ўводзяць забарону на курэнне ў грамадскіх месцах, на транспарце і ў месцах адпачынку, ва ўсіх дзяржустановах,ВНУ, на стадыёнах.

**Турцыя.** Расійская кінакампанія "Леополіс" за 45 дзён завяршыла тут здымкі працягу кінакамэдыі "Службовы раман. Наш час" з С. Ходчанкавай і М. Башаравым у ролях.

**Балгарыя.** Археолагі краіны адшукалі паблізу горада Созапол пад старажытным праваслаўным храмам мяркуемыя астанкі вядомага святога Іаанна Хрысціцеля.

**КНДР.** Як і чакалася, за няўдалае выступленне на чэмпіянаце свету па футболе галоўнага трэнера зборнай Кім Чон Хона выключылі з кампартыі, могуць яшчэ і пасадзіць у турму.

**Англія.** Па ацэнцы брытанскага кіначасопіса Empire, беларускі фільм "Ідзі і глядзі" 1985 года пастаноўкі Э. Клімава ўвайшоў у сотню лепшых работ сусветнага кіно пад № 24.

# Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Насуперак чаканням з-за працяглай спякоты сярэдняя ўраджайнасць зерневых і зернебабовых культур аказалася ў РБ ніжэй на амаль 8 цэнтнераў з гектара, чым летась.

**Салігорск.** Пасля завяршэння акцыяніравання ВА "Беларуськалій" не будзе праводзіцца продаж акцый работнікам гэтага прадпрыемства, усе 100 % акцый забірае сабе дзяржава.

**Мінск.** Адзін з вядучых банкаў краіны – Белінвестбак, як пацвердзіў старшыня праўлення Нацбанка П. Пракаповіч, будзе прададзены толькі еўрапейцам, кітайцы не гатовы пакуль.

**Гродна.** Па горадзе пайшлі розныя чуткі аб магчымым продажы замежным інвестарам часткі акцый буйнога ААТ "Гродна-Азот", на якім працуе амаль 7 тысяч чалавек.

**Мінск.** Да канца года Нацбанк Беларусі паабяцаў яшчэ знізіць сярэднія стаўкі па крэдытах нефінансаваму сектару па новых рублёвых дэпазітах да 10-13 % гадавых, цяпер яны 15 %.

**Кобрын.** На былым ваенным аэрадроме пачаўся будавацца новы жылы мікраараён горада, участкі для забудоў дамоў атрымалі першыя 166 чалавек, усяго тут паселяцца 600 сем'яў.

**Ваўкавыск.** З пачатку года мясцовае ААТ "Беллакт" павялічыла адгрузку дзіцячага харчавання за граніцу ў 2,5 разы, сёлета асартымент прадукцыі абновіцца яшчэ на трэць.

**Бабруйск.** Адразу 7 жыццяў адпачываючых на вадзе забраў сёлета ўчастак ракі Бярэзіны, названы Гусіным Логам, трое зламалі тут шыйныя пазванкі, 2-х жанчын ледзь адкачалі.

**Мінск.** На 2 гады закрываецца на рэканструкцыю драмтэатр імя Я. Купалы, пасля чаго колькасць месц для гледачоў зменшыцца да 400, але будынак набудзе старажытны выгляд.

**Брэст.** У горадзе група з Масквы пачала здымаць кіно пра У. Высоцкага і яго складаны перыяд жыцця ў 1979 годзе, калі славуты артыст-спявак перажыў клінічную смерць.

**Мінск.** Сталіца перажывае магазінны бум, тут адкрылі трэці па ліку сёлета гіпермаркет "Прастор", а ў самой Беларусі прыбавілася яшчэ каля 500 новых гандлёвых аб'ектаў.

**Жлобін.** Горад стаў самым цёплым за ўсю гісторыю метэаназіранняў у Беларусі з канца XIX стагоддзя, слупок тэрмометра там ледзь не дасягнуў днём 37 градусаў цяпла.

**Клімавічы.** Пасля зніжэння ўзроўню радыяцыі ў раёне адмянілі кантрольна-прапускны рэжым на тэрыторыі яшчэ 5 тысяч гектараў, але тут захавалі 16 забруджаных вёсак.

**Мядзель.** Пры велізарным патэнцыяле рэгіён нарачанскіх азёр ад экспарту турпаслуг атрымаў за год меней 1 млн. $, упускае свае грошы, слаба развівае турінфраструктуру.

**Хойнікі.** Да Дня беларускага пісьменства ў райцэнтры аднавілі помнік архітэктуры 19-га стагоддзя – сядзібу з паркам, у ім размесціцца краязнаўчы музей і школа мастацтваў.

**Мінск.** На дзіцячым конкурсе песні "Еўрабачанне" восенню на "Мінск-арэне" выступяць прадстаўнікі 14 краін ва ўзросце 10-15 гадоў, на адну болей, чым год назад у Кіеве.

# Ïàíàðàìà ¢íóòðûõ ïàäçåé

**Орша.** У самым "хлебным" раёне вобласці спецыялісты разлічвалі на многіх палях атрымаць па 70 ц/га збожжа, але з-за анамальнай спякоты ўраджай зменшыўся ў 2 разы.

**Наваполацк.** 13 тысяч працаўнікоў ААТ "Нафтан" парадаваў выхад нарэшце на рытмічную працу, з восені разлічваюць перапрацоўваць і 240 тысяч т нафты з Венесуэлы.

**Віцебск.** Мясцовае ТТУ абнавілася першай партыяй з 20-ці новых айчынных тралейбусаў 3-га пакалення з нізкай падлогай, парк сучаснай тэхнікі тут абноўлены ўжо напалову.

**Верхнядзвінск.** Падчас моцнай навальніцы разрад маланкі спаліў зрубленую лазню ў вёсцы Вазнова, на Віцебшчыне без святла засталіся 397 населеных пунктаў і 50 ферм.

**Расоны.** Другі год прастойвае адзінае ў раёне прадпрыемства, філіял Обальскага керамічнага завода, нідзе не знаходзяць збыту больш 10 млн. штук чырвонай цэглы.

**Полацк.** За прысваенне 15 млн. рублёў часткі выручкі за квіткі наглядчыцу аднаго з філіялаў музея-запаведніка асудзілі на 2 гады калоніі з канфіскацыяй маёмасці.

**Паставы.** Пасля адпаведнай падрыхтоўкі першыя 2 французскія верталёты з пагранічнага авіяатрада пачалі начное патруліраванне дзяржграніц РБ з магутнымі пражэктарамі.

**Верхнядзвінск.** Каля Кургана Дружбы на працягу 4-х дзён праходзіў пад дэвізам "65! Мы перамаглі!" міжнародны палатачны лагер амаль 700 чалавек моладзі РБ, Латвіі і Расіі.

**Лёзна.** Паблізу дзяржграніцы з РФ міліцыя затрымала ў іншамарцы беспрацоўнага буйную партыю расійскага кантрабанднага абутку – 1140 пар коштам 25 млн. рублёў.

**Наваполацк.** На некалькі гадзін быў спынены ноччу рух праз мост на Дзвіне з-за акупацыі яго матылямі, пакуль ДЭУ-32 не пагасіла асвятленне і не змыла іх струменямі вады.

**Шуміліна.** Першую партыю з 0,5 тоны агуркоў адправіла на продаж новая цяплічная гаспадарка Обальскага керамічнага завода, раней тут вырасцілі і прадалі іншую зеляніну.

**Лепель.** На базе Бярэзінскага запаведніка ў Домжэрыцах прайшоў злёт юных эколагаў, вучняў 8-10 класаў РБ і РФ "Экалогія без граніц", пераходны Кубак застаўся ў Беларусі.

**Полацк.** У мясцовай мастацкай галерэі ўпершыню адкрылася выстава 24 работ шэдэўраў славутага акадэміка жывапісу Івана Хруцкага з нагоды 200-годдзя яго нараджэння.

**Лёзна.** Услед за райцэнтрам прыватная расійская фірма на трасе Віцебск-Орша пачала ўзводзіць новую АЗС на газе з міні-кафэ, яе здача намечана ў канцы гэтага года.

**Шаркоўшчына.** Міліцыя пачала пошук зламысніка, які наўмысна падпаліў сенасховішча СВК "Жвіранка" у вёсцы Коўшалева, падчас вялікага пажару згарэла 5 тон кармоў.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**0,6** – столькі гектараў ворнай зямлі, па дадзеных вучоных, прыходзіцца ў Беларусі на душу насельніцтва. У гэтым сэнсе беларусам пашчасціла, бо аналагічныя сярэднія паказчыкі ў свеце ў 3 разы меншыя. Такім чынам, нашай краіне ніколі не пагражае недахоп прадуктаў харчавання і дароў лесу, нашы суайчыннікі ў большасці сваёй людзі вельмі працалюбівыя, а сёлета надзвычай рана, ужо ў сярэдзіне жніўня ўпершыню ўборка збожжа выйшла на фінішную прамую.

Адзінае, што сёлетні год не спраўдзіў надзей атрымаць валавы збор зерня ў аб'ёме 9 і 10 млн. тон, аб чым яшчэ нядаўна публічна хваліліся кіраўнікі самых высокіх рангаў. Але цяпер асцярожна кажуць упраўленцы аб паказчыку ў лепшым выпадку максімум 7,5 млн. тон збожжа. Пасутнасці, краіна скацілася на паказчыкі 2004-2005 гадоў. Айчынны аграрны сектар па-ранейшаму працуе па адміністрацыйна-камандных метадах кіравання галіной, арыентуючыся на спушчаныя зверху заданні.

Аднак сітуацыя ў сусветным АПК, як і надвор'е вакол нас, імкліва мяняюцца. Трэба думаць аб новай структуры пасеваў і зменах гатункаў вырошчваемага збожжа, больш устойлівага да рэзкіх перападаў тэмператур і рэкорднай гарачыні, суровых марозаў зімой. Менавіта з-за анамальнай сёлета працяглай спёкі сярэдняя ўраджайнасць збожжа ў Беларусі стала меншая на 8,7 – 8,8 цэнтнераў з гектара, чым яна была ў мінулым 2009 годзе. А шмат дзе ў адстаючых гаспадарках ураджаі зусім мізэрныя і іх працаўнікам, як і раней, цяжка будзе зводзіць канцы з канцамі і зноў яны будуць мець праблемы з выплатай сціплых заробкаў людзям.

Спецыялісты папярэджваюць, што і айчыннай сельскай гаспадарцы належыць хутчэй праводзіць яе мадэрнізацыю, чым і займаюцца зараз нашы суседзі і асабліва Расія, дзе пачалі дзейнічаць даволі эфектыўныя прыватныя агракампаніі. Пакуль іх у расіян яшчэ мала, але іх колькасць расце і размовы аб замяшчэнні імпарту прадуктаў харчавання ў РФ – не пусты гук. Для параўнання, і ў нас пры ўсіх плюсах па-ранейшаму выгадней імпартаваць тыя ж агуркі і памідоры вясной з Галандыі, альбо польскае мяса - круглы год, чым закупляць аналагічную прадукцыю ўнутры краіны.

Пакуль жа зазначым, што бягучы год для працаўнікоў сельскай гаспадаркі аказаўся самым унікальным на прыродныя сюрпрызы, што і прадвызначыла нізкі ўраджай і слабыя намалоты. Зерне проста не паспела з-за моцнай спёкі паспець, спечанае сонцам. На месяц раней у краіне прыступілі ўбіраць з палёў яравы рапс. Але, як і ў папярэднія гады, Беларусь патраціць валюту на закуп 30 тысяч тон пшаніцы цвёрдых палепшаных гатункаў, неабходных для працы хлебазаводаў. Ды і цяжка знайсці пакупнікоў на беларускае жыта і муку, хоць адпаведныя перамовы аб такіх экспартных пастаўках беларусы пачалі, шэраг расійскіх рэгіёнаў праявілі зацікаўленасць аб закупах ранняй беларускай бульбы.

Нам жа можна быць спакойнымі, што і на наступны год краіна будзе з уласным хлебам, макароннымі вырабамі і гароднінай. Зазначым, што Беларусь з падачы яе кіраўніцтва, падобна, канчаткова вырашыла адмовіцца ад закупак імпартных збожжаўборачных камбайнаў. За апошнія 3 гады айчынныя гаспадаркі атрымалі 4500 камбайнаў, выраблены на заводах у Гомелі і ў Лідзе, што і забяспечыла рэкордныя тэмпы ўборкі на палях краіны. Па сваіх характарыстыках пакуль яны саступаюць замежным аналагам, але вытворцы стараюцца наблізіць айчынную тэхніку да сусветных лідэраў.

Тым не менш, пляскаць у ладоні нам не выпадае. За апошнія 5 гадоў з дзяржбюджэту на праграму адраджэння і развіцця вёскі было выдзелена каля 70 трлн. рублёў. Сума проста гігантская, і хоць удалося сфарміраваць паўтары тысячы аграгарадкоў, праблемы сапраўднай эфектыўнасці АПК не вырашыліся. Самае галоўнае, што прадукты харчавання ў Беларусі дарагія, адпаведна ўзроўню даходаў людзей. Яшчэ больш праблем у развіцці асабістых падсобных гаспадарак насельніцтва.

У будучым усім лягчэй жыць не стане, бо ў 2011-2015 гадах плануецца сканцэнтраваць дзяржпадтрымку вёсцы па іншых накірунках, чым цяпер. Па сусветных правілах у ВТО і нават у Расіі забаронена прамая падтрымка вытворчасці прадукцыі АПК, да гэтага і мы павінны імкнуцца наблізіцца, каб захаваць дасягнутае, быць з хлебам, мясам і малаком.

# Самуіл Магілевер

**Самуíл (Самуэль, Шмуэль) Лейбавіч Магілевер (25 красавіка 1824 – 10 чэрвеня 1898) — піянэр рэлігійнага сіянізму і адзін з заснавальнікаў руху «Хавявэй Сіён». Магілевер лічыўся адным з найбуйных талмудысцкіх аўтарытэтаў свайго часу. Нарадзіўся ў Глыбокім.**

■ **Ул. Скрабатун**

Самуіл Магілевер нарадзіўся ў мястэчку Глыбокае Віленскай губерні (цяпер Віцебская вобласць, Рэспубліка Беларусь). Ягоны бацька, равін Юда Лейб, даў сыну рознабаковую адукацыю, пазнаёміўшы яго не толькі з Талмудам, але і з габрэйскай рэлігійна-філасофскай літаратурай і свецкімі навукамі. Самуіл вучыўся ў Валожынскай ешыве, дзе ў 1842 быў рукапакладзены на рабіна.

У 1848 годзе, у 24-гадовым узросце, стаў пераемнікам бацькі на пасту рабіна ў Глыбокім, з 1854 рабін у Шаках (Szaki) Сувалкскай губерні, з 1860 у Сувалках, з 1868 — у Радаме (Radom), дзе габрэйская абшчына абавязаная яму сваім добраўпарадкаваннем яго пастановам і энергічнай дзейнасці. Мясцовыя хасіды хацелі абвясціць яго «цадзікам», але Самуіл Магілевер энергічна адхіліў іх просьбу. У 1861 Самуіл скончыў школу рабінаў у Варшаве.

Абаяльная і прываблівая знешнасць, буйны прамоўніцкі талент, шырокія спазнанні ў талмудысцкай і свецкіх навуках, веданне літаратуры (польскай, рускай і нямецкай) – усё гэта ў кароткі час высунула Магілевера на перадавыя пазіцыі.

Актыўна ўдзельнічаў у грамадскім і палітычным жыцці, асабліва падчас паўстання Кастуся Каліноўскага ў 1863 годзе. У артыкулах, якія публікаваліся ў часопісе «Ха-Леванон» у 1870-х гг., Магілевер настойваў на неабходнасці супрацоўніцтва габрэйскіх змагароў асветы маскілім для падвышэння дабрабыту габрэйскага народа і патрабаваў ад рабінаў «спалучаць рэлігійную вучонасць з ведамі навук у адпаведнасці з духам часу».

У 1873 г. Магілевер прыняў удзел у нарадзе рабінаў і ўмераных лідэраў маскілім у Пецярбургу, дзе горача выступіў з ідэяй аб'яднання кансерватыўных элементаў з прагрэсіўнымі, але ягоная спроба не знайшла тады падтрымкі.

Магілевер падтрымліваў ідэю пасялення габрэяў у Эрэц-Ісраэль яшчэ да пагромаў 1881 г., а пасля пагромаў адправіўся ў Брады і Львоў, каб аказаць духоўную падтрымку масам уцекачоў і разам з тым заахвоціць іх перасяліцца ў Эрэц-Ісраэль. Услед за гэтым Магілевер разам з двума іншымі рабінамі – І. Б. Салавейчыкам і І. Х. Майзелем – звярнуўся з заклікам да рабінаў Расійскай імперыі стварыць арганізацыю для садзейнічання алие і засяленню Эрэц-Ісраэль.



Самуіл Магілевер

Пасля пагромаў 1881 года, якія былі выкліканы «травеньскімі законамі», Магілевер здзейсніў вандраванне па Заходняй Еўропе, каб прапагандаваць палестынафільскі рух і накіраваць хвалю габрэйскай эміграцыі ў Палестыну. У наступным годзе Магілевер заснаваў першы палестынафільскі гуртOK «Bene Zion», ён стаўся сузаснавальнікам таварыства «Хавявэй Сіёну» («любоў да Сіёну») ў Варшаве і схіліў барона Эдманда Джэймса дэ Ротшыльда да палестынафільства і, у выглядзе вопыту, да фінансавай падтрымкі паселішча Экрон (цяпер горад Кірыят Экрон), паўсталага для габрэйскіх фермераў-уцекачоў з Расеі. З гэтай мэтай Магілевер здзейсніў вандраванне па Расіі з мэтай схіліць народныя масы ў карысць палестынскай каланізацыі.

У 1883 быў абраны на рабіна ў Беластоку і працаваў дзеля развіцця сіянізму, пераконваючы беластоцкіх габрэяў пераязджаць у Пэтах-Тыкву, тады толькі нядаўна заселеную. Заснаваў у Беластоку вышэйшую рэлігійную школу (ешыбот) і крэдытнае таварыства. Дзякуючы ягоным намаганням таксама былі закладзеныя новыя могілкі — «на Багнуўцэ».

У кастрычніку 1884 г. Магілевер прыняў удзел у Катавіцскім з'ездзе, адным з ініцыятараў якога ён быў. Яго прамова, **היבשות העצמות**, сказаная ім у якасці ганаровага старшыні з'езду, стала затым асноўным матывам у пропаведзях нацыянальных «маціфім» як палестынафільскіх, так і сіяністцкіх.

У 1884 Магілевер быў абраны ганаровым прэзідэнтам канферэнцыі руху «Хавявэй Сіён», а ў 1887 і 1889 з'яўляўся старшынёй на канфэрэнцыях у Друскеніках і Вільні. Многія яго заслугі мелі рэлігійны характар. Так, пад уплывам Магілевера камітэт рабінаў прыняў рашэнне, згодна з якім юдэйскае землеробства на палестынскай зямлі павінна было як мага болей адпавядаць габрэйскім законам і традыцыям. Ён адным з першых рабінаў дазволіў юдэйскім каланістам працаваць у год шабату (сёдміцы).

У 1890 Магілевер прыняў удзел ва ўстаноўчым сходзе таварыства дапамогі габрэям-землярабцам у Сірыі і Палестыне і ўдзельнічаў у першай партыі паломнікаў у Палестыну. У гэтым жа годзе дзякуючы падтрымцы барона Эдманда Джэймса дэ Ротшыльда атрымалася набыць 1556 акраў (630 гектараў) зямлі блізу Джафы для калоніі Рэхабот.

У 1892-1893 гг. Магілевер засядаў у рабінскай камісіі. У 1893 шэраг рознагалоссяў з галоўным офісам руху ў Адэсе прывёў да рашэння стварыць асобны ад адэскага цэнтр пад кіраўніцтвам Магілевера. Новы аддзел, названы «Мізрахі» (скарачэнне ад габрэйскага merkaz рухані — «духоўны цэнтр») займаўся сіяніцкай прапагандай і культурніцкай працай сярод артадаксальных габрэяў. У 1896 г. Магілевер быў у ліку заснавальнікаў камандытнага таварыства «Кармель».

У 1897 Магілевер напісаў ліст да першага сіяніцкага кангрэсу ў Базэлі, на якім не змог прысутнічаць з-за пагаршэння стану здароўя:

***– Вельмі істотна, што Кангрэс яднае ўсіх «Сыноў Сіёну», якія імкнуцца разам з намі працаваць у суцэльнай гармоніі і братэрстве, нават калі паміж намі існуюць адрозненні ў поглядах адносна рэлігіі.***

Памёр у Беластоку 9 чэрвеня 1898 году ад крывазліцця ў мозг.

Пакінуў пасля сябе колькі рукапісаў філасофскіх працаў і каментароў да Талмуду, і Хошэн га-Мішпат, пропаведзі, рэспансы пра «Пеа» і «Кілаім», дзе выяўляе самавітыя матэматычныя спазнанні, вечны каляндар.

Большасць яго прац загінула падчас Беластоцкага пагрому ў 1906 г.; частка сачыненняў, якія захаваліся, была апублікаваная ў 1944 г. пад назвай «Хікрэй Халаха у-шэелот у-тшувот» («Даследаванні па Галахе і рэспонсы»).

Унук Магілевера Іосіф Магілевер, грамадскі дзеяч і сіяніст, з'яўляецца грамадскім рабінам у Беластоку і старшынёй мясцовага камітэта.

### Ушанаванне памяці

Калі ў 1901 рабін Іцхак Якаў Рэйнес з іншымі вучнямі Магілевера аднавілі арганізацыю, яны зрабілі гэта з тымі самымі мэтамі, духам і назвай. Магілевер спрычыніўся да паспяховага зліцця традыцыйнага артадаксальнага юдаізму з практычным сіянізмам. У 1902, праз чатыры гады пасля смерці Магілевера, «Мізрахі» афіцыйна далучыўся да сіяніцкай арганізацыі.

На 70-годдзе Самуіла Магілевера ягоным імем быў названы кібуц Ган Шмуэль. Праз чатыры гады пасля ягонай смерці імем Самуіла Магілевера была названая сінагога на тагачаснай вуліцы Бульварнай (цяпер вуліца Браніцкага, 3) ў Беластоку.

Яшчэ ў міжваенны час труна Магілевера ў Беластоку сталася мэтай пілігрымак габрэяў з Польшчы і замежжа. У 1991 родныя памерлага перанеслі эксгумаваны прах рабіна з могілак на «Багнуўцы» ў Ізраіль.

Вуліцы шэрагу ізраільскіх мястэчак носяць імя Самуіла Магілевера.



**Глыбокае. Старажытная сінагога на вуліцы Докшыцкай (цяпер Маскоўская). Паводле цяперашняй лакалізацыі сінагога знаходзілася перад сённяшняй гасцініцай на месцы 2-павярховага жылога дома 1960-ых гг. пабудовы. Сінагога знішчаная ў апошнюю вайну. Гіпатэтычна, сёння на ейным фасадзе вісела б з дзесятак мемарыяльных шыльдаў. Зрэшты, не магла б глыбоцкая габрэйская дыяспара, раскінутая па свеце, сабраць грошы на яе аднаўленне?**

### Спачуванне.

Выказваем шчырае спачуванне Яўгену Самсоваму з прычыны напаткаўшага яго гора – смерці брата.

*Калектыў газеты "ВГ"*

■ **кс. Віктар Місевіч**

# Свята ў Задарожжы

**15 жніўня ў парафіі Маці Божай Ласкавай у Задарожжы адбылося вялікае свята. Вернікі святкавалі 100-годдзе свайго касцёла.**

Касцёл у Задарожжы быў пабудаваны ў 1601 годзе па загаду караля Рэчы Паспалітай Сігізмунда-Аўгуста ў якасці падзякі Богу за перамогу ў бітве. Стары касцёл на жаль згарэў у полымі пажару ў 1902 г. Намаганнямі ахвярадаўцаў і вернікаў парафіі, а таксама пробашча кс. Антонія Валентыновіча ў 1910 г. паўстала новая святыня, якая радуе вока людзей і ў нашыя дні. Немалаважным фактам з гісторыі Задарожскай парафіі з'яўляецца і тое, што менавіта тут быў ахрышчаны прэм'ер-міністр Беларускай Народнай Рэспублікі Вацлаў Ластоўскі.

На свята ў Задарожжа з'ехалася мноства людзей. Гэта лёгка патлумачыць. Тут на працягу 50 год працаваў на жніве Пана нястомны пастыр кс. Люцыян Паўлік МІС. У савецкія бязбожныя часы ён пахрысціў і павянчаў у гэтым касцёле шмат людзей. Таму многія беларусы сёння адчуваюць моцную сувязь з Задарожжам, нягледзячы на месца свайго пражывання.

На самым пачатку святкавання ў касцёле была прадстаўлена кампутарная прэзентацыя пра гісторыю і жыццё Задарожскай парафіі. Затым Св. Імшу ўзначаліў пастыр дыяцэзіі кс. біскуп Уладзіслаў Блін. Ён падзякаваў Богу за магчымасць маліцца на юбілейнай св. Імшы і прыгадаў свае задарожскія карані. Слова Божае прамовіў а. Вячаслаў Пялінак МІС. Ён распавёў кароткую гісторыю касцёла ў Задарожжы і засяродзіўся на адданай працы шматгадовага пробашча а. Люцыяна Паўліка МІС.

Падчас св. Імшы адбыліся дыяканскія пасвячэнні. З рук біскупа Уладзіслава першую ступень сакрамэнту святарства атрымаў кл. Генадзь Ляўкоў. Пасля св. Імшы перад касцёлам урачыста была пасвечаная фігура Маці Божай. На ўрачыстасці падчас малітвы і пасля яе спявалі музычныя калектывы з Браслава, Друі, Гродна і Глыбокага.

Свята ў Задарожжы было добра падрыхтаванае. На вуліцы выступалі музычныя калектывы. Жадаючыя маглі набыць прадметы рэлігійнага культа ці проста падсілкавацца. Увесь цяжар падрыхтоўчай працы лёг на плечы цяперашняга пробашча ў Задарожжы кс. Эдварда Нарадоўскага і парафіянаў.







На пярэднім плане – кс. біскуп Уладзіслаў Блін

Вялікую дапамогу аказалі мясцовыя ўлады і дзяржаўныя арганізацыі.

Як сказаў у гаміліі а. Вячаслаў Пялінак МІС, не мы з'яўляемся аўтарамі гэтага свята. Аўтары – гэта тыя, хто будаваў святыню, хто ў ёй пакутаваў і хто яе ратаваў ад бальшавікоў. Мы толькі нашчадкі, з вуснаў якіх сёння можа гучаць толькі шчыры "Дзякуй!" Богу і продкам за прыгажосць Задарожскай святыні.

*Фота: кс. Віктар Місевіч*

# Падсвільскі світанак – 2010

■ **Я. Самсонаў**

**Традыцыйна ў сярэдзіне чэрвеня падсвільчане адзначаюць Дзень пасёлка. Не выключэнне быў і гэты год, нягледзячы на тое, што ў Задарожжы ладзіўся фэст з нагоды 100-гадовага юбілею касцёла Маці Божай Ласкавай.**

Напярэдадні ўрачыстага адкрыцця свята прадпрыемствы, арганізацыі і ўстановы выставілі на суд гледачоў свае кветкавыя кампазіцыі. Палюбавацца было чым. Бо гэта быў вынік вялікай карпатлівай працы мясцовых кветкаводаў. Цяжкавата было кампетэнтнаму журы пры падвядзенні вынікаў вызначыць найлепшых з лепшых.

Мясцовыя артысты тэатралізаванага прадстаўлення "Раскошны песенны букет" і дзіцячая канцэртна-забаўляльная праграма "Цвецік-самацвецік" парадавалі прысутных сваім талентам.

Былі падведзеныя вынікі і ўручаны ўзнагароды пераможцам конкурсу ў намінацыі па добраўпарадкаванню прыватных сядзіб, тэрыторый прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў.

Цёпла і душэўна прымалі падсвільчане гасцей-артыстаў: эстрадны канцэрт Глыбоцкага ГДК "Эстрадныя звёзды для Вас" і сапраўдных майстроў цыркавога прадстаўлення з Шаркоўшчыны. Юныя цыркавыя віртуозы заінтрыгавалі гледачоў, і гэта пры тым, што выконваць складаныя цыркавыя нумары даводзілася ў поцемках.



Няўстойлівае плаванне ў паветраным шары

Цудоўны святочны феерверк падняў планку эмацыянальнага настрою на вышэйшы ўзровень. А завяршылася свята дыскатэкай, якая доўжылася за поўнач.



Узнагароджанне пераможцаў конкурсу.

**А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

**З залы раённага суда**

# Для некага закон яшчэ пакуль не пісаны, але пасля затрымання яны вывучаць закон вельмі добра

За 7 месяцаў 2010 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету выяўлена 218 правапарушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, па 10 матэрыялах следчымі органамі МУС у адносінах парушальнікаў узбуджаны крымінальныя справы. За парушэнні правілаў рыбалоўства прыцягнута да адказнасці 144 чалавекі, канфіскавана 97 браканьерскіх сетак, агульнай даўжынёй 4 км. 220 метраў, 31 адзінка іншых браканьерскіх прылад рыбалоўства, 163 кг. незаконна здабытай рыбы. За парушэнні правілаў палявання прыцягнута 19 грамадзянаў, канфіскавана 7 адзінак агнястрэльнай зброі, 120 кг. незаконна здабытага мяса дзікіх жывёл, перарвана 35 парушэнняў правілаў лесакарыстання, 15 іншых парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства. Усе парушальнікі панеслі пакаранне.

Так, за незаконную лоўлю рыбы сеткамі ў траўні 2010 года супрацоўнікамі інспекцыі на возеры Вялікае Язна ў в. Язна Мёрскага раёна былі затрыманы 2 мясцовых жыхароў Лаўшоў і Батурын, у адносінах якіх Мёрскім РАУС узбуджана крымінальная справа па ч.4 арт. 281 КК РБ. Прысуд Мёрскага раённага суда 6 месяцаў абмежавання волі, з улікам пакрытай шкоды ў памеры больш 4 млн. рублёў.

На падставе Закона «Пра амністыю ... « 2010 года вызвалены ад крымінальнай адказнасці жыхар в. Палавіца Глыбоцкага раёна непаўналетні грамадзянін Заяц, які ў траўні 2010 года ажыццяўляў незаконную здабычу рыбы сеткамі на рацэ Палавіца і здабыў 34 кг. рыбы, прычыніўшы шкоду прыродным рэсурсам на суму больш 9 млн. рублёў, шкода пакрытая ў поўным аб'ёме.

Жыхар г. Глыбокае грамадзянін Васілёнак, які аказаў непадпарадкаванне супрацоўнікам Глыбоцкай міжраённай інспекцыі пры затрыманні яго за незаконны збор ягад пры дапамозе камбайна, прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці судом Глыбоцкага раёна ў выглядзе 5 сутак адміністрацыйнага арышту, а таксама міжрайінспекцыяй за незаконны збор ягад забароненымі сродкі ў памеры 700 тысяч рублёў з пакрыццём прычыненай шкоды ў памеры 800 тыс. рублёў.

Жыхары г. Глыбокае грамадзяне Раманоўскі і Піскуновіч, якія ажыццяўлялі незаконную лоўлю рыбы сеткамі на возеры Кагальнае г. Глыбокае прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці судом Глыбоцкага раёна ў выглядзе штрафу ў памеры 525 тысяч рублёў з пакрыццём прычыненай шкоды ў памеры 131 тыс. рублёў.

Гэта толькі маленькая частка выяўленых фактаў браканьерства і прыцягнення парушальнікаў да адказнасці.

Нягледзячы на строгія меры адказнасці за браканьерства, на жаль колькасць грамадзян ахвотнікаў (можна ўпэўнена сказаць) апынуцца на месцы парушальнікаў не памяншаецца. Аналіз наяўнай у міжрайінспекцыі інфармацыі дае падставы меркаваць, што хуткім часам будуць затрыманыя яшчэ не адзін дзесятак парушальнікаў, якім закон яшчэ пакуль не пісаны, але спадзяёмся, што пасля іх затрымання яны вывучаць закон вельмі добра.

Пра ўсе факты браканьерства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 8-02156-2-86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# Выкліканне дажджу ў Старым Дзедзіне — плугам перааралі рэчку



Доўгатэрміновая спёка прымусіла жыхароў вёскі Стары Дзедзін Клімавіцкага раёна звярнуцца да старажытнага абраду выклікання дажджу. Па традыцыі, гэта чыста жаночы абрад, калі трэба плугам пераараць рэчку. Пад словы песні «Вадзіца, вадзіца — зямная царыца! Прызаві нябесную царыцу!» жыхаркі вёскі пераворвалі пясчанае дно абмялелай ракі Асцёр.

*Анатоль Клешчук, Звязда*

# Эксперт: ласі выратуюцца ад расійскіх пажараў у Беларусі

**Расійскія ласі, казулі і дзікі могуць вымушана пачаць шукаць паратунку ад пажараў на тэрыторыі Беларусі, выказаў здагадку ў інтэрв'ю «Інтэрфаксу» кіраўнік раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў Хоцімскага раёна Магілёўскай вобласці Васіль Кастроў.**

Па словах эксперта, «корму хопіць на ўсіх», таму міграцыя жывёл з Расіі не створыць «ніякага экалагічнага прэсінгу» ў беларускіх лясах.

Кастроў, аднак, адзначыў, што лісы і зайцы наўрад ці выратуюцца ад агню.

*bbc.co.uk*



**Ул. Скрабатун**

# Ласкавае возера Сэрвач

Ёсць такі забаўны мультфільм “Ледавіковы перыяд”. Хто яго не бачыў, нават дарослыя, – раіў бы паглядзець! Але размова тут – не пра змест мультфільма. З яго мы згадаем толькі той фон, на якім разгортваліся падзеі. А фон там – досыць рэалістычны! Ледавік у два кіламетры таўшчынёй! А перад ім – вялізнае мора талай вады.

Менавіта такое відовішча, яшчэ 15 тысяч гадоў таму можна было назіраць паміж Глыбокім і Докшыцамі. Глыбокае – пад лёдам, а ў Докшыцах – тундра з паўночнымі аленямі. Так! Ледавік спыніўся тут. Гэта раён Варганскай гары і возера Сэрвач. Ледавік таяў, адыходзячы незваротна на Поўнач, а перад ім утварылася агромністае возера, берагі якога хаваліся дзесьці за небасхілам.

Прайшлі тысячагоддзі… Возера зменшылася, пакінуўшы пасля сябе разлеглыя балоты і рэшту – возера Сэрвач, якое і сёння ўсё яшчэ ўражвае памерамі. Ёсць меркаванне, што назоў возера мае фіна-угорскае паходжанне. Доказам таму – падобныя назвы на Поўначы Расіі. Сярод іх рака – Сэрва. Яе сэнс выводзяць з комі-пермяцкай мовы, як вада “колеру разбаўленага дамашняга піва”. Такі назоў датычны ў большасці сваёй да балотных рэчак, дзе вада мае рудое адценне. У возеры Сэрвач – вада чыстая, але мае яна, яўна, піўное адценне, бо навокал – неабсяжныя балоты, якія жывяць возера.

На беразе возера, з боку Дзеркаўшчыны, стаіць шыльда. Змест яе можна працытаваць цалкам: “BirdLafe. **IBA. Тэрыторыя важная для птушак.** Рэспубліканскі гідралагічны заказнік “Сэрвач” з'яўляецца часткай міжнароднай сеткі Тэрыторый, Важных для Птушак – ТВП (Important Bird Areas – IBA), прыродных тэрыторый, якія маюць выключную важнасць для захавання рэдкіх і знікаючых відаў птушак, а таксама для падтрымання біялагічнай разнастайнасці ўвогуле”.




Між тым, заўважым, фауна і флора заказніка вывучана недастаткова. Толькі ў 2001 годзе ў выніку экспедыцыйных работ было выяўлена пражыванне ў заказніку двух відаў птушак, якія знаходзяцца пад пагрозай глабальнага знікнення: вяртлявай чарацянкі Acrocephalus paludicola і дубальта Gallinago media. Гэта крайні паўночны пункт распаўсюджання вяртлявай чарацянкі ў Беларусі. Сустракаюцца тут і іншыя рэдкія віды: чапля-бугай Botaurus stellaris, шэры журавель Grus grus.

З рэдкіх раслін на тэрыторыі заказніка адзначана бяроза карлікавая Betula humilis.

Я не скажу, што возера Сэрвач – возера майго дзяцінства. Далёка з Глыбокага на ровары ехаць, кіламетраў дванаццаць. Але ездзілі мы, хлопцы, сюды не рэдка. Тады Сэрвач успрымалася ледзьве не морам, гэта – не Бягеле! Асабліва, у ветранае надвор'е, калі метровыя хвалі з шумам набягалі на пясчаны бераг. А сінеючы лес на дальнім беразе – падаваўся ўсяго з запалку вышынёй.

16 жніўня гг. надарылася нагода ізноў наведаць Сэрвач. Спякота! На градусніку ў ценю – + 35$^0$. Зрабіўшы першы крок у ваду я не адчуў розніцы паміж тэмпературай паветра і вады. Колькі жыву, а такую тэмпературу вады адчуваю ўпершыню ў жыцці. Тэмпература вады фактычна роўная тэмпературы цела.

Тут, як на моры: абы дайсці да глыбіні – “па шыю”, трэба адолець адлегласць роўную даўжыні футбольнага поля.

Людзей было чалавек 50 – пры павярхоўным маім падліку. І, ведаеце, шмат глыбачанаў! Неверагодна! Я акунуўся разоў сем, аддаючы кожнаму купанню хвілаў дзесяць, потым выходзіў на бераг, праз хвілінаў пятнаццаць – ізноў у ваду. А нехта, за гэты час, так і не выйшаў з вады! Купальшчыкі ці не гадзіну знаходзіліся ў возеры. Проста стаялі “па шыю” ў вадзе, не рухаліся, “адмакалі”. Асалода!

У нас на Глыбоччыне ёсць яшчэ адно падобнае возера – Шо. Вялікае і мелкаводнае. Але на Шо ёсць толькі адно прыдатнае “пляжнае” месца, каля аднайменнай вёскі Шо. Паўсюль – глеістае дно, ногі вязнуць па калена, і толькі каля вёскі Шо дно жвіровае з вялікімі валунамі. Ідзеш і спатыкаешся. Ногі накалваюцца на трыснёг, нібы на скошанае іржышча...

На Сэрвачы – дно пясчанае. Ідзеш і нагам прыемна! Цёплае, пяшчотнае і ласкавае возера! І навошта нам бераг турэцкі!



# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

23 – 29 жніўня 2010 г.











## ПАНЯДЗЕЛАК, 23 жніўня




**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.55** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.50** Деловая жизнь.
**08.30** «Белорусские гренадеры»
**09.05 «Семейный дом»**
**10.05** Женское ток-шоу «Жизнь как жизнь». «Мое первое свидание».
**11.00 «Всегда говори «всегда»-5»** 1-я с.
**12.10 «Свои дети»**
**13.50** «OFF STAGE LIFE»
**14.05** «Дана Борисова».
**15.15, 19.15** Новости региона.
**15.25 «Брак по завещанию»**
**16.30 «Спальный район»** (Россия).
**17.25 «Всегда говори «всегда»- 5»** 2-я с.
**18.25** «Прости меня».
**18.50, 00.55** «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Арена».
**19.55 «Семейный дом»**
**21.00** Панорама.
**21.55 «Клиент»** (США).
**00.10 «Герои-3»**
**01.00** День спорта.




**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.00** «Контрольная закупка».
**10.30 «Моя жена меня приворожила».**
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 «Танго с ангелом».**
**12.05** «Жить здорово!».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Понять.Простить».
**13.45** «Модный приговор».
**14.50** «Мои друзья. Тигруля и Винни».
**15.30** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Обручальное кольцо».**
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20 «Счастливы вместе».**
**19.00** Жди меня.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Выбор».
**22.10 «Остаться в живых».** V-й сезон. 12-я серия.
**23.05** Наши новости.
**23.20** Новости спорта.
**23.25**«Продукты «вечной» свежести».
**00.25 «Евлампия Романова. Следствие ведет дилетант».**
**01.10** Наши новости.
**01.25-01.35** Новости спорта.






**07.00** ЛАДное утро.
**08.00 «Универ»**
**08.30** Час суда. Дела семейные.
**09.30 «Любовь как любовь»**
**10.35 «Свадьба»** 1-я и 2-я серии.
**12.15** Школа ремонта.
**13.15 «Полюби меня снова»**
**14.15** Мультсериал **«Доктор Дог»**
**14.25** Внеклассный час.
**14.40** Телебарометр.
**14.55** Простые упражнения
**15.30 «Налетчики»**
**16.20** Час суда.
**17.25** Врачебные тайны
**18.00 «Любовь как любовь».**
**19.00** Видеофильм АТН «Кровь» цикла «Грюнвальд».
**19.35** Женская лига.
**20.00 «Побочный эффект»** 1-я серия.
**21.00** Калыханка.
**21.20 «Универ»**
**21.55** Футбол. Чемпионат Англии. Манчестер Сити - Ливерпуль. Прямая трансляция.
**23.55** Футбол. Чемпионат Англии. Обзор тура.
**00.50 «Налетчики»**

СТВ REN TV — ТЭЛЕКАНАЛ "СТВ"

**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.30** «Большой завтрак».
**10.05** «Личный интерес»
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Ангел-хранитель».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35 «Мачеха».** Сериал.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Большой город».
**14.30**КонцертМ.Задорнова.
**15.35** «Звездный ринг».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Мачеха».** Сериал.
**19.30** «24 часа».



**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.30** «Кинопонедельник»: **«ИТАЛЬЯНЕЦ».**
**22.30** «24 часа».
**22.55**«Столичн. футбол».
**23.25** «Кино»: **«ВРЕМЯ УБИВАТЬ».** США,

БЕЛСАТ tv BELSAT

**07:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**07:30** Кулінарныя падарожжы Р.Макловіча: «Смак кавы»
**07:55** Басаноҳ па свеце : «На шляху да гімбаў»
**08:20** Побач з намі
**08:35** «Чацвёртая сусветная вайна», дак. ф.
**09:55** Вагон
**10:05 «Таямніца крэпасці шыфраў»**8 серыя
**10:50 «Загадкі Мэрдака»** ч. 2, 7 серыя
**11:35** Фільматэка майстроў: **«Нявеста пірата»**

**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Папялушка»**51 серыя
**17:30 «Таямніца крэпасці шыфраў»**8 серыя
**18:20** Гісторыя пад знакам Пагоні : «Ягайла»
**18:30** «Восень браслаўскіх вазёраў», дак. фільм, 2007 г.
**18:55** МакраФон: «Бардаўская восень–2007»: выступ Андрэя Мельнікава
**19:15** Прэс-экспрэс
**19:30 «Пінгвінік Пік-Пок»**, мультсерыял
**19:40** Еўропа сёння
**20:05** Кулінарныя падарожжы Р.Макловіча: «Шматкультурная Малдова»
**20:35** «Загуж, апошні прыпынак»
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Рэмарка
**21:40 «Нявеста пірата»**
**23:10** Аб'ектыў

